21 ВЕРАСНЯ 1999г. АЎТОРАК

# НАВІНЫ

№107 (638) WWW.SVABODA.COM КОШТ СВАБОДНЫ

стар.4

## СОЛИДАРНОСТЬ ЗАХВАТЫВАЕТ ВЛАСТЬ

# Віктара Ганчара скралі спецслужбы?

## У краіне зноў знікаюць людзі. Можа мы ўжо жывем не ў Беларусі, а ў Парагваі?

Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ

**Вось ужо пяць дзён, як знік выконваючы абавязкі старшыні Вярхоўнага Савета Віктар Ганчар. Разам з дэпутатам невядома куды падзеўся і прадпрымальнік Анатоль Красоўскі. Апазіцыя лічыць, што іх скралі дзяржаўныя спецслужбы. Маўляў, крадзяжом Ганчара яны пазбаўляюць парламент актыўнага лідэра і адначасова зрываюць перамовы, якія наладжвала АБСЕ. Улада Беларусі вуснамі А.Лукашэнкі заяўляе, што вядомага апазіцыянера трэба шукаць на Захадзе. Каб падмацаваць гэтыя здагадкі, афіцыйная прапаганда ўжо раскручвае версію пра даўгі Ганчара нейкім «спонсарам» з Расіі і Канады. Тым часам родныя і знаёмыя Ганчара і Красоўскага прадпрымаюць свае пошукі і раней за міліцыю знайшлі сляды выкрадальнікаў.**

### Пайшоў у лазню і не вярнуўся

Нагадаем, з чаго пачыналіся падзеі. Паводле жонкі Віктара Ганчара Зінаіды, мінулы чацвер яе муж прыкладна ў восем вечара з'ехаў з дому. Разам са сваім даўнім сябрам прадпрымальнікам Анатолем Красоўскім яны накіраваліся ў лазню па адрасе вуліца Фабрычная, 20. Варта дадаць, што генеральны дырэктар фірмы «Красіка» Анатоль Красоўскі два тыдні таму





Фота Ул.ШЛАПАКА



1. Вось тут «Джып Чэрокі» **Красоўскага** і **Ганчара** быў узяты ў ціскі невядомымі машынамі.
2. На гэтым дрэве засталася чырвоная драпіна. Магчыма, яе пакінуў аўтамабіль спецслужбы.
3. Крысталікі бакавога шкла. Яго разбіваюць звычайна дзеля таго, каб гвалтоўна выцягнуць з машыны чалавека.

затрымліваўся міліцыяй па падазрэнні ў невяртанні крэдытаў. Але абвінавачванне супраць яго было знятае і ён быў адпушчаны.

Праз гадзіну Віктар Ганчар па тэлефоне папярэдзіў жонку, што будзе дома недзе ў палове дванаццатай, аднак у гэты час ён не з'явіўся. Ноччу жонка Віктара Ганчара патэлефанавала жонцы Анатоля Красоўскага Ірыне і ад яе даведалася, што Красоўскага дома таксама няма. Жанчыны пачалі тэлефанаваць паўсюль — у міліцыю, у шпіталі і гэтак далей. Высветлілася, што ні Ганчар, ні Красоўскі міліцыяй не затрымліваліся. Дзе знаходзіцца «Джып Чэрокі» вішнёвага колеру, на якім яны паехалі ў лазню, міліцыя не ведае. У шпіталях і моргах такіх асобаў не было. Узнікла версія аб гвалтоўным выкраданні Віктара Ганчара нейкімі спецслужбамі. Чаму версія здаецца праўдападобнай?



Зінаіда Ганчар

**Зінаіда Ганчар** кажа:

— Я ўпэўненая, чыіх рук гэта справа. Якраз калі Віктар з'язджаў, па тэлебачанні паказвалі выступ Лукашэнкі на нарадзе ў сувязі з тэрарызмам. Пачуўшы гэты лямант, Віктар сказаў: «Ён альбо мяне арыштуе, альбо нешта іншае зробіць, але не дасць нам правесці паседжання. Ты не разумееш, хлопец сарваў з гранаты чаку». ▶

Заканчэнне на стар.3

СУД МОСКОВСКОГО РАЙОНА
г.МИНСКА

ИСТЕЦ: Шейман Виктор Владимирович, проживающий в г.Минске, ул. Азгура, д. 5, кв. 76

ОТВЕТЧИКИ: редакция газеты "Навіны", г.Минск, проспект газеты "Известия", 8-173

автор статьи Анисько Сергей Федорович, проживающий в г.Минске, пер. Кабушкина, д.15, кв.28

ЦЕНА ИСКА: 15 млрд. рублей

ИСКОВОЕ ЗАЯВЛЕНИЕ
о защите чести и достоинства

14 сентября 1999 г. в газете "Навіны" № 104 (635) была опубликована статья С.Анисько "Кто в теремочках живет?", в которой распространены сведения, не соответствующие действительности, порочащие мою честь и достоинство.

В частности, в статье сообщается, что мною в деревне Подлипки, Пуховичского района построены: "небольшой (примерно 8x10) двухэтажный "теремок" оригинальной конструкции из тесанного леса с пристройкой", "кирпичный хозблок довольно-таки внушительных размеров, которому бы позавидовал любой фермер", "начато возведение одноэтажного типового блочного трехкомнатного дома и хозпостройки", "причем эти два объекта по замыслу неизвестного архитектора слиты воедино с разделяющим их арочным входом", "что вместе они составляют единый "дворцово-замковый ансамбль", заасфальтирована усальба, "апофеозом стало возведение здесь же во дворе небольшой, но уютной бани".

Кроме того, как указывается в статье, с появлением в деревне Подлипки "влиятельных новоселов" "в настоящее время осуществляется капитальный ремонт асфальтного полотна проходящей через Подлипки дороги Дукора - Смиловичи", а также приводятся сведения о том, что я "путь от майора до генерал-майора прошел всего за пять лет".

Вышеуказанные сведения, изложенные в статье С.Анисько, не соответствуют действительности, ущемляют мои права и интересы, охраняемые законодательством.

В этой связи, руководствуясь статьями 152 и 153 Гражданского кодекса Республики Беларусь, прошу суд обязать редакцию газеты "Навіны" опровергнуть сведения, распространенные ею в статье С.Анисько "Кто в теремочках живет?", и взыскать с ответчиков: редакции газеты "Навіны" - 10 млрд.рублей, автора статьи Анисько С.Ф. - 5 млрд. рублей, а также понесенные мною судебные расходы.

Всю взысканную с ответчиков сумму компенсации морального вреда прошу перечислить Белорусскому союзу помощи инвалидам войны, расчетный счет 3015000001045 в АСБ "Беларусбанк", филиал № 521 г.Минска, код 287.

Приложение: газета "Навіны" № 104 (635) от 14 верасня 1999 г.

В.В.Шейман

"16" сентября 1999 г.

# Нам объявили войну

## Александр Лукашенко приказал Совету безопасности расправиться с газетой. «Шоу» началось...

Редакционная коллегия

*— Всему этому надо положить раз и навсегда конец! Хватит, мы тут в демократию с ними играемся... Нам такая демократия не нужна, должен быть порядок!*

Такими словами обрушился Александр Лукашенко на нашу газету во время заседания силовиков в прошедший четверг. Негодование и злобу пробудил в «вожде» появившийся накануне материал «Кто в теремочках живет?», где речь шла об оригинальных постройках семейства Шеймана в деревне Подлипки, что в Пуховичском районе. Госсекретарь Совбеза Шейман — «охотник за головами» всех неугодных и провинившихся — на этот раз сам оказался в центре внимания. А это, ох, как неприятно! Он, конечно, мог бы и собственными методами разобраться с журналистами, но как опытный военный знает — всегда нужно позаботиться о прикрытии, а еще лучше получить благословение. Долго ждать не пришлось — за «обиженного» вступился сам Лукашенко. На том же заседании он проорал:

*— Совсем недавно уже добрались до Шеймана — такой-сякой, там дворцы построил!...До каких пор это будет продолжаться? Я предупреждаю и Пашкевича, и Мясниковича, и все правительство — если такие газеты в судебном порядке не будут закрыты в ближайшее время — пеняйте сами на себя! А вы, Виктор Владимирович, возьмите этих писак и завезите их туда... Наконец-то научить надо этих людей: грязью скоро обмарают так, что стыдно будет людям показаться...* ▶

Окончание на стр.3

### ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

- **Учора стала вядома, што ў клініцы нямецкага горада Мюнстэр памерла жонка былога прэзідэнта СССР Раіса Гарбачова.** У яе быў смяротны дыягназ – лейкемія. Да апошняга моманту Міхаіл Гарбачоў знаходзіўся ля яе ложка і імкнуўся яе падтрымаць. Хвароба аказалася мацнейшай.
- **Сёння мусіць адкрыцца першая чарга новай ніткі газапровода «Ямал — Заходняя Еўропа».** Агульная даўжыня сістэмы газаправодаў павялічыцца на 209 кіламетраў. Новы ўчастак працягнецца ад Нясвіжа да мяжы з Польшчай. Для абслугоўвання газапровода ў Нясвіжы цяпер будуецца кампрэсарная станцыя, якая пачне працаваць на пачатку кастрычніка..
- **Учора пачалася высадка міжнароднага міратворчага дэсанта на Усходні Цімор.** У склад міратворцаў уваходзіць 8 тысяч чалавек з 20 краінаў. Асноўную частку «дэсанта» будуць складаць аўстралійцы. Галоўная задача міратворцаў – абараніць насельніцтва Усходняга Цімора ад генацыду. Чакаецца, што ў бліжэйшы час будзе абвешчана пра незалежнасць Усходняга Цімора ад Інданезіі.
- **Урад Чылі вырашыў накіраваць «справу Піначчэта» на разгляд Міжнароднага трыбунала ў Гаазе.** Іспанія вітала гэты крок Чылі і заявіла, што гэта адзіная магчымасць правільна вырашыць канфлікт. Як вядома, былы дыктатар Аўгуста Піначчэт абвінавачваецца ў арганізацыі масавых забойстваў іспанцаў у Чылі падчас ягонага кіравання. Іспанскі трыбунал патрабаваў выдачы Піначчэта, аднак Чылі на гэта не пагадзіліся. Цяпер канчатковае рашэнне справы Піначчэта будзе прынятае ў Гаазе.

Падрыхтаваў Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

наша СВАБОДА

### НАДВОР'Е

Віцебск +17-19
Магілёў +17-19
Гродна +18-20
Мінск +18-20
Гомель +18-20
Брэст +20-22

**21 верасня** па краіне чакаецца пераменная вобалачнасць, месцамі па Брэсцкай, Гродзенскай абласцях кароткачасовыя дажджы, вецер паўднёва-ўсходні, 6–11 м/сек., месцамі парывы да 15–20 м/сек.

### Курс наяўнага долара на «чорным рынку»



485 000

АЎТОРАК



З КАСТУСЁМ ТАРАСАВЫМ

## Агульная воля

Раз'яднанаму на адзінкі народу адвеку наканавана быць ахвярай уладаў, чыноўніцтва, адкрытых ці прыхаваных агрэсіўных групавак. Толькі адчуваючы агульную волю народа, улады мусяць трымацца тых абяцанняў, з якімі яны выходзяць да людзей, калі імкнуцца атрымаць мандаты на пасады. Сёння агульная воля нашага народа выпрацоўваецца катастрафічным падзеннем узроўню жыцця, цэментуецца беспраглядным эканамічным становішчам краіны і адпаведна бальшыні насельніцтва. Бедства церпіць нашая вёска, рабочыя не маюць магчымасці зарабіць на дастойнае ўтрыманне сваіх дзяцей, інтэлігенцыя пастаўленая на ганебную мяжу ідэалагічнай і сацыяльнай залежнасці. Сярэдняе чыноўніцтва, на якім трымаецца нармальнае функцыяванне дзяржаўных інстытутаў, адчувае на сабе штодзённы ціск і пагрозу звальнення. Відавочная адсутнасць хоць якой станоўчай перспектывы адбіваецца на настроі людзей. Людзі не бачаць наперадзе ніякага яснага дня і для сябе, і для сваіх нашчадкаў. Замест жыцця яны вядуць існаванне, вымушаны ўпарта змагацца за элементарнае выжыванне. Грамадства не можа быць у такім стане, не павінна праходзіць выпрабаванне на жывучасць. Кожны чалавек мае ад нараджэння інстынкт супраць безнадзейнасці, кожны надзелены правам і ахвотай раўнапраўнага ўдзелу ў грамадскім жыцці. Таму толькі аб'яднаныя моцным жаданнем пераменаў да лепшага людзі будуць здольныя змяніць лёс, выбрацца з той бязрадаснай каляіны, на якую іх паспіхвала ўрадавая палітыка.

Марш Свабоды, прызначаны на 17 кастрычніка, — гэта магчымасць грамадзянскім дзеяннем выказаць тое, што людзі перажываюць, што паміж сабой абмяркоўваюць і чаго чакаюць. Гэта магчымасць адчуць плячо аднадумцаў, узмацніць сваю веру ў змены на лепшае. Сёньняшні горасны для большасці народа дзень, стабільнасць бедстваў не зважаюць на ўзрост, на палітычныя ці апалітычныя погляды грамадзянаў. Калі кожны, хто жадае шчасця сваім дзецям, жадае самапавагі сабе, дабра сваім родным, выйдуць паказаць, што яны нязгодныя далей жыць так, як жывуць зараз, тады і ўмагчыміцца змена такога ладу жыцця. 17 кастрычніка незадаволеныя мільёны сем'яў могуць аб'яднаць сваю волю, давесці ўраду, што менавіта яны той народ, які па Канстытуцыі ёсць галоўны носьбіт улады. А службовая ўлада была абраная імі дзеля выканання іхнай агульнай волі жыць не хужэй за астатнія народы Еўропы.

ПАЛІТЫЧНАЯ АФІША

**24 сентября в пятницу около мини-рынка «Серебрянка» с 18 до 20 часов пройдет санкционированный пикет с участием журналистов газеты НАВІНЫ**

# Сесія ВС прайшла без Віктара Ганчара

## А ЛДП ізноў апынулася за бортам перамоваў

**Рыгор БУЯН**

18—19 верасня ў Мінску прайшла планавая сесія Вярхоўнага Савета 13-га склікання. Праўда, адбылася яна без выканаўцы абавязкаў старшыні ВС Віктара Ганчара.

Пленарнае паседжанне сесіі Вярхоўнага Савета таксама праходзіла не без прыгод. Літаральна праз 40 хвілінаў пасля прыезду ў кінатэатр «Перамога», дзе ў канспіратыўным парадку арэндавалася зала пад сесію, дэпутатаў



«папрасілі» адтуль. Адміністрацыя кінатэатра заявіла ВС, што адсутнічаюць сапраўдныя дакументы на арэнду залы і паперы аб аплаце памяшкання для правядзення навукова-практычнага семінара на тэму «Сучасны стан беларускай літаратуры». З «Перамогі» дэпутаты з'ехалі на штаб-кватэру АГП, дзе сесія і завяршылася.

Цэнтральным пытаннем сесіі, безумоўна, стала зацвярджэнне апазіцыйнай дэлегацыі на перамовы з выканаўчай уладай. Абмеркаванне гэтага пытання цягнулася каля гадзіны і завяршылася досыць нечакана. Ліберальна-дэмакратычная партыя на чале з Сяргеем Гайдукевічам, якая неймавернымі намаганнямі дабілася права прадстаўляць апазіцыю на перамовах з уладай, зноў апынулася за бортам перамоўнага працэсу. У прынятай на сесіі пастанове ў «склад дэлегацыі ад палітычнай апазіцыі для ўдзелу ў перамовах з выканаўчай уладай пры пасрэдніцтве АБСЕ» ўнесены ад АГП — С.Багданкевіч і А.Лябедзька, ад БНФ — Ю.Беленькі і В.Вячорка, ад ПКБ — С.Калякін і А.Скрыган, ад Народнай Грамады —М.Статкевіч і М.Грыб, ад Партыі працы — Л.Лемяшонак і А.Бухвостаў, ад Партыі жанчын «Надзея» — В.Палевікова, ад БСДГ — С.Шушкевіч і А.Трусаў. Такім чынам, з падачы групы дэпутатаў фракцыі «Грамадзянскае дзеянне», у якіх «апазіцыйнасць ЛДПБ выклікае вялікія сумненні», ЛДП аказалася па-за перамовамі. Па прапанове Сямёна Домаша, пастанова была дапоўненая пунктам аб немагчымасці пачынаць перамовы з уладай да высвятлення абставінаў таямнічага знікнення Віктара Ганчара.

Апрача таго, ВС пачысціў свае шэрагі. Мандатная камісія на чале з Мечыславам Грыбам спыніла паўнамоцтвы 116 дэпутатаў ВС 13-га склікання: 110 з іх увайшлі ў Палату прадстаўнікоў, 5 дэпутатаў памерлі, а Пётр Краўчанка пазбаўлены дэпутацкіх паўнамоцтваў за згоду заняць пасаду пасла Беларусі ў Японіі. Такім чынам, цяпер у ВС уваходзяць 83 дэпутаты.

ВС прыняў таксама зварот да міжнароднай супольнасці, у якім заклікаў пазбягаць якіх бы то ні было кантактаў з нелегітымным рэжымам, актывізаваць дзейнасць па вызваленні палітзняволеных і прыкласці ўсе намаганні для пошуку бясследна зніклых Тамары Віннікавай, Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара і бізнесмена Анатоля Красоўскага. ■

# «Народная воля» под арестом

**Иван БАБИЧЕВ**

Субботний тираж независимой газеты «Народная воля» был арестован вечером 17 сентября. Причина ареста – полоса, посвященная готовящемуся на 17 октября Маршу свободы.

Примерно в 18.30 главному редактору «Народной воли» Иосифу Середичу позвонил один из сотрудников службы экспедиции объединения «Белпочта», занимающегося распространением газеты по республике. Не представившись, сотрудник «Белпочты» сообщил, что тираж газеты изъят с общего склада, закрыт в кабинете одного из чиновников и опечатан.

Редактор газеты в экстренном порядке начал обзванивать домашние телефоны начальства «Белпочты». Все, что ему удалось добиться — это к 20 часам получить подтверждение факта ареста субботнего тиража. Причину ареста Середичу не сообщили. Удалось также выяснить, что отпечатанная газета лежит под замком в кабинете начальника цеха экспедирования «Белпочты» Кудрявцева. Когда Середич потребовал у Кудрявцева вернуть ему тираж, являющийся частной собственностью «Народной воли», тот ответил отказом.

Недалеко от редакции «Народной воли», в гостинице «Октябрьская», проходил какой-то торжественный вечер. На нем, как удалось выяснить, присутствовал заместитель главы президентской администрации Иван Пашкевич. Его Иосиф Середич буквально вытащил из-за стола, потребовав объяснений происходящему. Однако Пашкевич ничего внятного не произнес, сказав, что он якобы ничего не знает. Открестился от скандала и глава Государственного комитета по печати Михаил Подгайный, до которого также удалось дозвониться поздно вечером. Удивительно, но высшие государственные чиновники, непосредственно отвечающие за идеологию и СМИ, оказались не в курсе событий. Однако сам Середич уверен, что именно полоса оргкомитета Марша свободы стала причиной ареста газеты.

Шум, поднятый Середичем, все же сработал. Вероятно, сыграло свою роль и то, что на первой полосе арестованного номера было напечатано очередное сообщение Консультативно-наблюдательной группы ОБСЕ. Около 22 часов Середичу позвонил Пашкевич, который сообщил, что «вопрос решен». Утром в субботу газета продавалась в киосках и ушла к подписчикам. ■

# Лебядзіная песня Вуячыча

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

17 верасня на 66-м годзе жыцця пасля цяжкай працяглай хваробы памёр вядомы беларускі спявак савецкіх часоў Віктар Вуячыч.

Віктар Лук'янавіч Вуячыч нарадзіўся 11 ліпеня 1934 года ў Харкаве. Працаваць пачаў у 17 гадоў на адным з заводаў на Алтаі, потым служыў на флоце. З 1957 года В.Вуячыч жыў у Беларусі – спяваў у Дзяржаўным народным хоры БССР, быў салістам на Беларускім радыё, потым — у Белдзяржфілармоніі. Ён атрымаў тытул лаўрэата першай прэміі Усесаюзнага конкурсу на лепшае выкананне савецкай песні ў Маскве ў 1966 годзе, 2-ю прэмію Міжнароднага конкурсу эстраднай песні «Залаты Арфей» у Балгарыі ў 1967 годзе. Заваяваў Вялікі спецыяльны прыз Міжнароднага фестывалю сучаснай эстраднай песні ў Токіо ў 1973 годзе. У 1976 годзе стаў Народным артыстам Беларусі. Узнагароджаны некалькімі ордэнамі і медалямі.

Апошнія дзесяць гадоў Віктар Вуячыч ужо не выступаў на сцэне, а быў мастацкім кіраўніком аб'яднання «Белканцэрт».

Праводзіць Віктара Вуячыча ў апошні шлях прыйшлі Эдуард Ханок, Уладзімір Мулявін, Анатоль Эскін... Афіцыйныя ўлады прадстаўлялі намеснік кіраўніка прэзідэнцкай адміністрацыі Іван Пашкевіч і міністр культуры Аляксандр Сасноўскі. Да пачатку паніхіды прыязджаў развітацца з нябожчыкам старшыня Савета міністраў Сяргей Лінг. Аляксандр Лукашэнка абмежаваўся вянком з чырвона-зялёнай стужкай.

18 верасня Віктар Вуячыч быў пахаваны на Усходніх (Маскоўскіх) могілках. ■

ЦЫТАТА НУМАРА

**Что можно было ответить в этой ситуации? Опять-таки, только правду о своих эмоциях: никогда раньше я лично не чувствовала себя такой идиоткой...**

*Ольга ТАРАСЕВИЧ*

*Из статьи «На ранчо Шеймана хранится сено» «Белорусская деловая газета», 20 сентября 1999 года*

# Пікет у салідарнасць з югаславамі

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

Сёння ў 10-ці гарадах Югаславіі пройдуць дэманстрацыі ў знак пратэсту супраць знаходжання ля ўлады Слабадана Мілошавіча. У Бялградзе аб'яднаная апазіцыя паабяцала вывесці на вуліцы сто тысяч чалавек.

У знак салідарнасці з намаганнямі сербскіх дэмакратаў Аб'яднаная грамадзянская партыя і Хартыя'97 правядуць пікет пад дэвізам «За нашую і вашую свабоду». Пікет пройдзе з 17 да 19 гадзінаў на перасячэнні вуліцаў Гарадскі Вал і Няміга. У той жа час у другім па велічыні горадзе Югаславіі Новы Сад удзел у маршы апазіцыі прыме прадстаўнік Хартыі'97 у Брусэлі Аляксандр Сіліч, які папярэдне ўжо сустрэўся з прадстаўнікамі мясцовых апазіцыйных колаў. ■

# У Беларусі забараняюць акцыі, бо ў Расіі грымяць выбухі

**Рыгор БУЯН**

Мінгарвыканкам забараніў Федэрацыі прафсаюзаў правесці 30 верасня ў Мінску шэсце. Гэтай масавай акцыяй, у якой планаваўся ўдзел да 50 тысяч чалавек, прафсаюзы меркавалі «прыцягнуць увагу дзяржаўных органаў да рэзкага зніжэння жыццёвага ўзроўню насельніцтва і наступлення на сацыяльна-эканамічныя правы працоўных».

У рашэнні гарвыканкама, падпісаным намеснікам старшыні Мінгарвыканкама Віктарам Чыкіным, ФПБ дазволена правесці мітынг на плошчы Бангалор колькасцю да 50.000 чалавек.

Разам з тым гарадскія ўлады забаранілі планаванае шэсце рабочых. Прычына тлумачыцца так: «у сувязі з абвастрэннем у цяперашні час грамадска-палітычнай абстаноўкі ў саюзнай Рэспубліцы Беларусь дзяржаве».

Вось так. Цяпер выбухамі ў Расіі можна вытлумачыць любую забарону на масавыя акцыі ці нават апраўдаць рэпрэсіі ў Беларусі. ■

# На Валадарцы новы жыхар

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

Былога старшыню Ашчаднага банка Рэспублікі Беларусь Уладзіміра Хілько перавялі з турэмнай бальніцы на Валадарку.

У мінулы чацвер жонка, Зінаіда Хілько, як звычайна, прыйшла наведаць мужа ў турэмнай бальніцы, аднак там паведамілі, што яго перавялі на Валадарку. Як сцвярджаюць родныя экс-банкіра, на Валадарцы адсутнічае нават неабходны апарат для вымярэння ціску, а ўрачы, калі нешта здарыцца, не змогуць аказаць кваліфікаваную дапамогу. Урач, які наглядаў У.Хілько ў турэмнай бальніцы, нават не паспеў даць неабходныя рэкамендацыі наконт лячэння экс-банкіра.

Варта нагадаць, што Фрунзенскі суд прысудзіў экс-банкіру тры з паловай гады пазбаўлення волі ў папраўча-працоўнай калоніі ўзмоцненага рэжыму. Суд таксама абавязаў У.Хілько выплаціць матэрыяльны ўрон у памеры 849 мільярдаў рублёў, што складае 3 мільёны долараў ЗША па курсе Нацбанка. Абаронцы лічаць У.Хілько невінаватым і збіраюцца абскардзіць вынесены прысуд у вышэйшай інстанцыі. ■

# Першы цвік у труну перамоўнага працэсу забіла «Панарама»

**Рыгор БУЯН**

Сёння, 21 верасня, міжпартыйны Кансультатыўны савет разглядае прапановы экспертаў з боку выканаўчай улады па доступе апазіцыі да дзяржаўных СМІ. Па словах кіраўніка апазіцыйнай групы экспертаў Міхаіла Пастухова, выканаўчая ўлада ўжо вызначыла спіс 5 рэспубліканскіх газет, дзе не менш за 2 разы на тыдзень аб'ёмам 250 радкоў змогуць змяшчаць свае матэрыялы апазіцыйныя палітыкі. Вызначаныя таксама абласныя і раённыя выданні, куды апазіцыя атрымае доступ.

Што да электронных СМІ (дзяржаўнага радыё і тэлебачання), то тут узніклі пэўныя праблемы. Меркавалася даць прамы эфір апазіцыі ўжо на гэтым тыдні. Аднак перадача БТ «Панарама» ўжо паспела забіць першы цвік у труну перамоўнага працэсу. У выпуску 15 верасня вядучыя «Панарамы» І.Хрушчова і Е.Дзмітрыеў дазволілі сабе, скажам карэктна, непарламецкім выразам ахарактарызаваць ход кансультацыяў па доступе апазіцыі да дзяржаўных СМІ. З падачы вядучых атрымалася, што апазіцыі далі доступ на тэлебачанне і радыё, а яна, такая-сякая, адмовілася. Абмеркаванню гэтай хлусні была прысвечаная львіная доля часу на кансультацыях экспертных групаў 16 верасня. Група экспертаў ад апазіцыі заявіла таксама, што «ўся адказнасць за наступствы парушэння дамоўленасцяў ляжыць на прадстаўніках улады». ■

# Віктара Ганчара скралі спецслужбы?

*Окончание. Начало на стр. 1*

Жонка Анатоля Красоўскага, Ірына, таксама аддае перавагу палітычнаму характару здарэння:

— Безумоўна, мой муж проста раздзяліў лёс Ганчара, бо аказаўся побач. Самога яго ніхто б не скрадаў — палітыкай ён не займаўся, справы ў бізнесе ішлі, як звычайна. Напярэдадні Анатоль не выказваў ніякіх дрэнных прагнозаў...

## Пінкертоны паняволі

Апоўдні ў пятніцу, не дачакаўшыся нейкіх пэўных дзеянняў з боку міліцыі, жанчыны наладзілі самастойнае расследаванне. Па іх просьбе Яўген Лычоў і Уладзімір Чарноў паехалі да будынка лазні на вуліцы Фабрычнай, каб абследаваць наваколле. Пачалі яны з размовы з супрацоўніцамі лазні. Адна з работніц, Таццяна Мікалаеўна, узгадала, што Віктар Ганчар, якога яна ведае ў твар, разам з сябрам з'ехалі без пятнаццаці адзінаццаць. Жанчына нават выходзіла правесці іх на ганак. Было ўжо цёмна, нікога побач з лазняй яна не бачыла. Шуму ніякага не чула.

Дасканалае абследаванне тэрыторыі таксама дало вынік. За вуглом на дарозе побач з лазняй былі знойдзеныя кавалкі задніх ліхтароў «Джыпа Чэрокі» і россып мелкіх кавалкаў аўтамабільнага шкла. Асфальт побач з кавалкамі запырсканы кроплямі крыві. Ланцужок гэтых кропель цягнецца недзе на пяць метраў далей, у накірунку, куды ехаў «Джып Чэрокі». Кусты на газоне побач аказаліся паламаныя. На ствале аднаго куста сарваная кара і бачна тонкая палоска чырвонай фарбы. Пад кустом на бардзюры — свежая глыбокая драпіна, зробленая нечым жалезным. Побач на пяску след задняга кола, а ніжэй на асфальце — чорныя сляды рэзкага тармажэння. Якія высновы можна зрабіць з гэтых прыкметаў?

Адзін з памочнікаў Віктара Ганчара Уладзімір Чарноў лічыць, што дарога «Джыпу», у якім ехаў Ганчар, была перагароджаная. «Хутчэй за ўсё нейкай чырвонай машынай. Убачыўшы ўперадзе перашкоду, вадзіцель «Джыпа», а за рулём быў Толя Красоўскі, узяў правей, тады чырвоная машына дала задні ход і ўрэзалася ў кусты. Ад'ехаць і развярнуцца Анатолю і Віктару ўжо не далі, іх заблакіравалі ззаду, аднак «Джып» спрабаваў вырвацца і ўсё ж даваў задні ход і ў нешта ўдарыўся — адсюль фрагменты разбітых задніх ліхтароў. Потым Ганчара і Красоўскага гвалтоўна выцягнулі з машыны — хутчэй за ўсё, разбіўшы бакавое шкло. Не выключана, што пры гэтым адзін з тых невядомых бандытаў параніў аб шкло руку, адсюль і кроў. Але гэта можа быць і кроў Ганчара ці Красоўскага, якія не маглі не аказваць супраціўленне».

## Што далей?

Вельмі істотна, як вядзецца расследаванне гэтага здарэння. Мяркуючы па прадпрынятых захадах, уладам яно не падаецца надзвычайным. Гэтак месца знікнення Ганчара міліцыянты агледзелі толькі напрыканцы пятніцы! Прычым туды іх павезлі сябры Ганчара — сваёй машыны ў міліцыянтаў пад рукой не аказалася. Пакуль знікненнем Ганчара займаецца аддзел крымінальнага вышуку Савецкага РАУС Мінска. Кіраўнік аддзела Іван Падгурскі больш ніякай інфармацыі пра тое, як вядуцца пошукі і ці ўзбуджаная крымінальная справа, не паведамляе. Ад яго ўдалося толькі даведацца, што справа таксама на кантролі ў Сяргея Векшы — начальніка службы пошуку міністэрства ўнутраных справаў.

Тым часам кіраўнік Беларусі Аляксандр Лукашэнка ўпэўнены, што Віктар Ганчар проста збег і яго «трэба шукаць на Захадзе». Пра гэта Лукашэнка заявіў у мінулую суботу на ўрачыстым паседжанні ў Оперным тэатры. Дзяржаўныя СМІ Беларусі ўжо падмацавалі гэтае меркаванне звесткамі пра тое, што Віктар Ганчар атрымоўваў грошы на сваю апазіцыйную дзейнасць, у тым ліку на правядзенне прэзідэнцкіх выбараў у траўні гэтага года, ад нейкіх спонсараў з Расіі і Канады. Расійскія спонсары не называюцца, а вось канадскі агалошаны. У «Рэзанансе» журналіст Казіятка назваў нейкага Георгія Астроўскага, былога беларускага прадпрымальніка, які з'ехаў у Канаду, і адтуль альбо з Масквы, куды ён часта наязджаў, нібыта фінансаваў Ганчара. Праўда, ніякіх дакументаў у пацверджанне гэтай версіі Казіятка не паказаў. У тым ліку не назваў нумар справаздачы спецслужбы, якая прадаставіла гэтую інфармацыю.

А тое, што корань гісторыі з Ганчаром цягнецца да нашых спецслужбаў, сумненняў усё менш. Зінаіда Ганчар у прыватнасці ўзгадвае, што за яе мужам даўно сачылі менавіта з чырвонага «Жыгуля» трэцяй мадэлі. (Памятаеце, чырвоны след на дрэве побач з лазняй.) Памочнік Ганчара Уладзімір Чарноў таксама ўпэўнены, што аперацыю правялі спецслужбы: «Ганчар ездзіў у гэтую лазню рэгулярна, і заўсёды за ім ехаў «хвост». Таму спецслужбы альбо самі скралі Ганчара, альбо добра ведаюць, хто гэта зрабіў».

Паралельна з афіцыйным, сваім расследаваннем здарэння з Ганчаром занялася і камісія, створаная Вярхоўным Саветам. У яе ўвайшлі такія вядомыя дэпутаты, як Мечыслаў Грыб, Генадзь Цярэня, Валерый Шчукін. Узначальвае камісію генерал міліцыі ў адстаўцы Уладзімір Савічаў. Учора дэпутаты спрабавалі перадаць Аляксандру Лукашэнку петыцыю з патрабаванне адпусціць Ганчара, аднак былы прэзідэнт да дэпутатаў не выйшаў. Камісія падала ў пракуратуру краіны патрабаванне неадкладна ўзбудзіць па факце знікнення Віктара Ганчара крымінальную справу.

**Дарэчы, камісія просіць усіх, хто валодае інфармацыяй пра гэтае здарэнне і гатовыя дапамагчы, звярнуцца па тэлефонах 257-06-95, 228-49-50.** ■

Фота Ул.ШЛАПАКА






- Дэпутаты ВС патрабуюць ад уладаў знайсці свайго калегу
- На фота злева — **Анатоль Красоўскі**

МЕРКАВАННЕ КРАІНЫ

**Мы продолжаем публикацию результатов августовских социологических исследований, которые проводит лаборатория «НОВАК» Андрея Вардамацкого. Опрос был проведен 10-16 августа 1999г. Репрезентативная выборка - 1.097 человек.**

# Существует ли угроза утраты независимости Беларуси?







Приблизительно треть населения страны уверена в том, что угроза утраты независимости Беларуси существует. Из тех, кто согласен с подобным утверждением, подавляющее большинство считает, что эта угроза исходит со стороны России. Если среди жителей страны эта цифра составляет 56,9%, то среди минчан она выглядит вовсе обескураживающей — 70,6%. Любопытно, что 21,5% респондентов считает, что угроза потери суверенитета исходит от NATO. Скорее всего сказалась антинатовская пропаганда, которая шла в государственных СМИ на протяжении всей операции, проводимой NATO на Балканах. ■

ДЫЯГНАЗ

## Чрезвычайники



Александр ПОТУПА

Оно неприятно, но ничего не поделаешь. Рассыпались светлой памяти всеколхозные Дожинки по простой причине полного облома с урожаем. Примерно половина плана по зерну — уж точно не повод для телетрансляций хлебосольства с песноплясами. Хлебосоль надо экономить для зимнего всепростонародного потребления, а песноплясы — для «Славянского Базара» (или «Набата» — не помню).

Но не стоит горевать, на пороге отечественной истории новейший праздник — Чрезвычайники. Вот только одекретят-обуказят и начнем праздновать. Или уже начали? Если да, то как это выглядит?

Очень просто и солидно. Для начала Наиглавнейший Чрезвычайник убежденно сообщает возлюбленному простонародью, что во вверенном ему государстве он вовсе не намерен вводить чрезвычайное положение — кому нужна страна в положении? Но намерен всеохватно наводить и укреплять дисципарадак. Потому как в братско-сестринской России уже взрывают дома. А у нас еще не взрывают, но роль страшных террористов играет оппозиция, и мы с ней тут заигрались в демократию. Потому хватит играться! Все силы на борьбу с этими врагами народа.

Газеты, копающиеся в нашем благосостоянии, — закрыть! Потому как мы чэстные и ничем, окромя всепростонародного благоSOSания, не интересуемся. Оппозицию и прочее отребье — загнать! В смысле — на единую собачью площадку для совершенно свободного выгула в наручномордниках с микрофонами и облаивания власти в свободное от отсидок время. Баксы, полученные ими от западных хозяев вместо «Педигри-Пала» и «Кити-Кэта», — показать! Будет двойная польза, потому как народ на родные «зайцы» без приступов тошноты давно смотреть не может. Квартирные офисы жалкой кучки отщепенцев под маркой досмотра подвалов, чердаков и жилого фонда — капитально прошмонать! А ежели чего стрясется, никаких вам, мужики, следственных бригад, хватит на всех одного расстрельного взвода — сидеть!! Ладно, вскочили — можете постоять... И далее в этом роде — Ыть! Ать! Еть! Ять!

А далее чрезвыначальники собирают подчиненных, то есть подчрезвыначаленных, ставят их в неуставную позу и еще громче — Ыть! Ать! Еть! Ять!

И во всей стране разливается похвальное чрезвымыслие и благодать, благодыть, благодеть, благоять, то есть всеобщий благоSOS. Оппозицию выкупают чечены — за полведра самопального бензина и миллиард свеженарисованных баксов в фонд Наиглавнейшего Чрезвычайника. Москву милостиво включают в состав Шкловского района. Клинтон униженно просит взаймы до получки. Европарламент становится шестой палатой Национального собрания.

А самое замечательное в новом празднике Чрезвычайники — его ежедневность и подлинная всепростонародность. Каждый становится чрезвычайником и может свободно распевать на всех углах: я — чрезвычайник или я — трезвый чайник, как угодно. Ибо — свобода!

Как и положено в стране, которая уже не нуждается ни в гиеноформенных правоохранительных структурах, ни в этих интеллигентских правозащитных штучках. Ибо — один на всех правоиметельный орган. Символ отныне пожизненного и повседневного праздника Чрезвычайники. ■

УЛАДА І СМІ

# Нам объявили войну

*Окончание. Начало на стр. 1*

По сути такими словами Лукашенко дал карт-бланш на уничтожение НАВІНАЎ любыми способами. Долго ждать не пришлось. Уже на следующий день к автору материала Сергею Анисько постучал в дверь... судебный исполнитель. Дома были только жена и сын, однако это не помешало не понятно на каком основании описать имущество журналиста. Семье показали иск, поданный Шейманом в Московский суд на газету и автора статьи, в котором госсекретарь оценил свой моральный ущерб в 15 миллиардов рублей! Десять миллиардов наш «герой» хочет получить с газеты и пять — с автора.

Так как, сами понимаете, в нашей стране «нячэсныя» журналисты подобных денег в руках не держали, то суд с подачи госсекретаря поспешил с описью журналистского имущества. Только хотелось бы получить ответ: на каком основании судебный исполнитель еще до предъявления журналисту повестки в суд и уж тем более до разрешения самого судебного дела проводит опись? Или, может быть, раз Лукашенко распорядился любым путем закрыть газету, Виктор Шейман тут же посчитал дело выигранным, а суд, естественно, молчаливо согласился? Может тогда и на судебные заседания ходить не будем, зачем зря терять время и силы? Тем более, что очень скоро всем нашим героям — и тем, кто при власти, и тем, кто обслуживает ее, вновь придется ходить по судам. Только уже в качестве ответчиков и обвиняемых.

Есть и другая сторона этого дела. Еще до «указиловки» Лукашенко «свозить писак на дачу Шеймана», в редакцию позвонили из Совета безопасности и предложили нашему главному редактору Павлу Жуку встретиться с Виктором Шейманом, чтобы прокатиться с ним в сторону Подлипок. Павел Жук в ответ предложил свозить туда журналиста и фотокорреспондента. Мол, если мы ошиблись в размерах бани или еще какой постройки, то готовы вернуться на страницах газеты к теме «теремочков» и на этот раз донести до читателя всю информацию, полученную в ходе поездки. Странно, но на такой вариант почему-то согласия со стороны Виктора Шеймана мы не получили. В результате газета и госсекретарь не нашли «взаимопонимания». Как теперь намерен госсекретарь выполнять приказ президента об «отвозке писак к родителям» — остается загадкой. Разве что, как всегда, прибегнут к помощи зимовских и ковалевых, которые хорошо овладели искусством что надо снимать, а что надо вырезать. Еще один вариант — отвезти журналистов в Подлипки под конвоем...

В понедельник журналисты НАВІНАЎ узнали, что счет редакции арестован еще в пятницу, то есть за три дня до того, как мы увидели иск. Кроме того, на нас свалилось еще одно несчастье в виде судебного исполнителя тов.Изварина А.В., который сначала «просился» в дом нашего главного редактора Павла Жука и был отправлен им в обратном направлении. Спустя час этот же человек появился в дверях редакции все с тем же «настойчивым предложением» описать имущество. На помощь пришли наши коллеги фотокорреспонденты и телевизионщики, благодаря чему описчик, сделав запись, что все имущество принадлежит частным лицам, поспешил ретироваться.

Здесь хочется сказать спасибо корпоративной солидарности друзей журналистов и высказать свое негодование по поводу совершенно иной, мягко говоря, недружественной и недостойной позиции «Белорусской деловой газеты». В своем номере за понедельник они, в лице журналистки Ольги Тарасевич, поспешили встать на защиту... кого бы вы думали? Правильно, Виктора Шеймана, того, кто занялся «сведением счетов» с автором материала и газетой. И это при том, что Сергей Анисько действительно не является нашим штатным корреспондентом, а работает в редакции «БДГ». В отличие от тех, кого уже не хочется называть коллегами, мы собираемся всеми возможными способами защищать журналиста и себя. А Виктора Шеймана поздравляем – у него теперь есть защитник не только в лице президента, но и до сих пор независимого издания, в чьем названии три буквы.

И еще. Лукашенко прав, когда говорит о грязи, в которой «нас всех обмарали так, что стыдно людям показаться». Только к глаголу «обмарали» надо добавить частицу «сь», тогда все встанет на свои места. Действительно, если власть в грязи, то никаким указом или криком ее не отмоешь. Что же касается газеты, то нам не привыкать — мы живем от открытия к закрытию. Когда-то задушили СВАБОДУ и мы стали НАВІНАМІ. Сейчас готовимся стать НАШЕЙ СВАБОДОЙ, потому что в честность и справедливость нынешней власти и обслуживающих ее институтов не верим. Но мы все равно будем! Будем всегда! Нам никто не может запретить писать, и все наши читатели, которые когда-то поверили нам и пошли за нами, не останутся без глотка **нашей свободы**. ■

Фота Ул.ШЛАПАКА



- Главный редактор НАВІНАЎ **Павел Жук** и судебный исполнитель **Александр Изварин**

# Десять лет назад из Центральной Европы ушел тоталитаризм

# Солидарность захватывает власть

**Тадеуш МАЗОВЕЦКИЙ**

**Премьер-министр Польши между августом 1989 года и октябрем 1990 года**

**Десять лет назад в сентябре меня обвинили в формировании первого некоммунистического правительства в тогда еще коммунистическом мире. Советский Союз еще существовал, существовал Варшавский пакт, Красная Армия сохраняла свои базы по всей Польше. Солидарность только вышла из подполья, и многие ее лидеры только что вышли из тюрьмы. Восстановление общественной роли Солидарности было жизненно важным для всех последовавших событий.**

После введения военного закона в 1981 году власти Польши, под предводительством генерала Ярузельского, пытались доказать, что они готовы достигнуть соглашения с «обществом». Однако для меня легализация Солидарности была фундаментально важной: я твердо верил, что территория свободы, которую мы отвоюем у правительства, только тогда станет реальной, когда она будет защищена не малыми группами людей, а мощным общественным движением.

Когда власти дали понять, что их намерения в отношении легализации Солидарности действительно серьезны, я пришел к выводу, что необходимы политические переговоры, известные под названием переговоров за круглым столом. Однако до самого конца я боялся, что власти нас каким-нибудь образом обманут, а я лично не страдал желанием участвовать в новых политических структурах.

Поскольку я верил, что территория свободы, предложенная на переговорах за круглым столом, еще долгое время должна будет сосуществовать с «их» территорией – с территорией коммунизма. Попав в политические структуры режима, мы могли подвергнуться риску позволить процессу нас «засосать». Только когда стало абсолютно ясно, что Солидарность войдет в правительство и возьмет на себя бразды правления, я согласился принять нашу новую историческую роль.

Однажды кто-то сравнил мою работу по формированию первого правительства Солидарности с работой солдата по разминированию минного поля. Но я не только разминировал это поле, я пытался построить на нем что-то новое. Более того, мы хотели не просто навести порядок, мы хотели кардинально изменить весь политический и экономический ландшафт нашей страны. Полумеры помочь не могли, режим должен был быть изменен фундаментально.

Мы также должны были объяснить русским, что мы не против дружественных отношений, но что теперь все решения мы будем принимать сами. Через два дня после того, как я стал премьер-министром, я передал советскому правительству это сообщение посредством эмиссара советского Политбюро и позднее вновь подчеркнул нашу позицию в течение своего первого визита в Москву.

Но хотя реакция Москвы на реформы в Польше волновала всех, Москва не была первым пунктом назначения моих поездок, как того требовал ритуал всех предыдущих правительств. Мой первый официальный визит был в Ватикан.

Действительно, в такие экстраординарные времена символы имеют большое значение, и многие мои первые действия на посту премьер-министра были полностью или частично символичными. Первое такое действие я совершил еще до формирования нового правительства, как только я прибыл в свой офис в Совете министров, который все еще состоял из представителей старого режима. Когда я вошел в это пугающее здание, я почувствовал, что оно взвалилось на мои плечи вместе с моими новыми обязанностями. Я сел за свой стол и сказал окружающим: «Давайте попытаемся дозвониться Папе». Я не надеялся получить у него инструкции, я только сказал: "Святой отец, помолитесь за меня».

Мой следующий официальный акт был таким – рядом с моим столом стоял столик со множеством телефонов. Среди них была вертушка, соединявшая с первым секретарем польской коммунистической партии. Я попросил, чтобы эту линию выключили. «Если первый секретарь коммунистической партии захочет со мной поговорить, он может позвонить мне по обычному телефону». Было очень важно сразу определить новый облик власти – государство, независимое от партии. Бюрократы, окружавшие меня, должны были это понять. Действительно, прошло какое-то время, прежде чем они осознали, что они могут иметь свою партийную организацию, но только за стенами офиса, и что в Совете министров не будет официальной Партийной ячейки.

Эти символические жесты происходили из самого корня нашей политической программы. В своей вступительной речи я сказал, что нам необходимо «провести четкую линию между нами и прошлым, что мы ответственны не за то, что мы унаследовали, а за то, что мы сделаем сами».

Мои слова позднее были извращены самым странным образом моими критиками. Но дух моей речи был простым. Мы намеревались предпринять фундаментальные изменения, но мы хотели ввести их эволюционным, мирным путем. Проводить перемены без мести, принимая во внимание прошлое, но без возмездия. Вот что я имел в виду, говоря о "четкой линии" между прошлым и настоящим.





Экс-премьер-министр Польши **Тадеуш Мазовецкий**

В то время в коммунистической партии Польши состояло свыше двух миллионов человек. Я должен был сообщить им, будет ли демократическая Польша и их страной тоже или они будут гражданами второго сорта. Во-вторых, весь административный аппарат государства, который нельзя было заменить за месяц, должен был работать на благо новой Польши. Коммунисты контролировали силы безопасности, армию, все органы государства. Они могли спровоцировать конфронтацию, направленную не только против меня, но и против их собственных лидеров, которые подписали соглашения круглого стола.

После стольких лет конфликта, когда память о военном законе 1981 года была еще жива, политика национального примирения была важнейшим элементом нашей программы. Декоммунизация для меня превыше всего означала декоммунизацию режима, самой системы. С другой стороны, что касается виновных личностей, мы верили, что люди ответственные за преступления, должны предстать перед судом. И правительство, которое защищало независимость судопроизводства, не могло вмешиваться в этот процесс. То же самое касалось и моральной оценки прошлого – которая, конечно, должна была произойти – по-моему мнению, это должно было быть сделано посредством широкого общественного дебата, а не указа правительства или действий государства.

Обязанностью правительства было ввести политические и экономические реформы, глубокие реформы, а это требовало общественного спокойствия. Мы стояли перед важным выбором – или уничтожить это общественное спокойствие, начав охоту на ведьм против коммунистов, или реформировать старый режим и двигаться дальше в новую эру национального мира и экономического процветания. Мы выбрали реформу.

**Copyright: Project Syndicate, September 1999**



© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі. Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996
Выдаецца з 16 студзеня 1998 г. В.а. галоўнага рэдактара і заснавальнік Павел Жук. Выдавец – рэдакцыя газеты НАВІНЫ. Адрас для карэспандэнцыі: 220034, г. Мінск, вул. З.Бядулі, 6-47. Тэл./факс: 236-89-40.
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 600 Нумар падпісаны ў друк 20/09/99 (15:00) Наклад – 16.790